

У польскім войску 1937 г.

сыя да дармаўшчынкі, нават сталі пагражаць расправай.

Дайшло гэтае намярэнне і да жонкі брыгадзіра.

— Пакінь ты тое брыгадзірства, — стала ўпрошваць яна мужа. — Навошта табе нажываць ворагаў?

— А што? Яны будуць красці, а я толькі несці адказнасць?! — гучна абураўся ў адказ Фёдар.

Але ўсё ж такі падаў заяву на звальненне з пасады. Цяжка працаваць малады мужык не мог. Таму, па стану свайго здароўя, ён быў у калгасе то аб'ездчыкам, то вартаўнікам.

Было ў франтавіка паляўнічае ружжо. Двустволка. Прыдбаўшы яе, ён уступіў у паляўнічы калектыў. Доўгі час быў нязменным яго старшынёю. Акуратна плаціў усе членскія ўзносы. Але ніколі не хадзіў на паляванне...

Чаму? — спытаецеся вы.

Бо ён, проста, не любіў забіваць...

— Мне страляніна і кроў абрыдзела яшчэ на вайне. Хочацца міра і цішыні. — гаварыў паляўнічы ў сваё апраўданне і са смехам дадаваў. — Таму няхай усе мае зайцы жывуць і радуюцца жыццю!

Часам калектыўшчыкі шчыра смяяліся са свайго старшыні:

— Яму касога прывяжы да дрэва, і ён яго не застрэліць...

Але Фёдар не крыўдзіўся на іх. А са смехам адказваў:

— Нічога вы не разумееце! Сапраўдны паляўнічы той, хто ахоўвае, а не той, хто знішчае... — і ганарліва з гумарам працягваў:

— Але я адзін раз у год выходжу паляваць на дзіка, і заўжды паспяхова.

— Ты?.. На дзіка?! Няўжо? — здзіўляліся з гучным смехам маладыя мужыкі.

— Ну, так! Цэлы год я яго гадую... А пад каляды выпускаю з хлевушка і страляю прама ў лоб... Ён бедны, нават, і не пікне...

...Так было і ў той выпадак, аб якім пойдзе гэтае апавяданне...

Быў далёкі час самага пачатку шасцідзесятых гадоў. У хатах сяла толькі-толькі з'явілася электрычнае святло і загаманіла радыё.

Стаяла марозная, перадкалядная пара...

Фёдар з самага ранку застрэліў пад свята кабанчыка, і, удзвух з жонкай, яны доўга завіхаліся ля яго тушкі.

Разабраўшы яе, гаспадар перанасіў свежае мяса ў халодную, яшчэ недабудаваную палову хаты і параскладаў там на лаўках.

Быў ужо зімовы адвячорак, калі закончыўшы ўсе справы, Фёдар, нарэшце, прыйшоў з марозу ў цяпло, каб сагрэцца і адпачыць. Праз пару гадзін, як зусім сцямнела, узяўшы з сабою вернага, чатырохногага сябра Джэка,

ён пайшоў сцерагчы калгасныя стажкі саломы. Вяртаўся адтуль заўжды апоўначы...

У той вечар яго сям'я ладзіла ёлку. Спачатку дзеці аздобілі яе рознакаляровай электрычнай гірляндай, а затым сталі вешаць на галінкі шкляныя бліскучыя цацкі, пернікі і цукеркі. Гледзячы на запаленыя агні ялінкі, Федзька з Валяй радаваліся і спявалі разам з матуляй песню пра ёлку.

Але тут пагрукалі ў дзверы хаты. Нічога не падазраючы, маці паслала дачушку:

— Валя, то мусіць тата прыйшоў... Збегай адчыні.

У сенцах дзяўчынка пачула з другога боку дзвярэй ціхую мужчынскую размову, але, спадзяючыся што гэта бацька, адкінула засаўку...

У хату нахабна ўвайшлі два незнаёмцы. Перапалоханая малая кінулася да маці. Тая адразу ж выйшла насустрач чужакам з пытаннем:

— Што трэба?

У кухні, пад столлю гарэла электрычная лямпачка. Яна асвяціла твары прыйшоўшых, і жанчына апазнала ў іх п'яных аднавяскоўцаў.

— Дзе твой чалавек? — запытаўся адзін з іх, патрасаючы нажом.

— На працы... Хутка прыйдзе.

— Мы прыйшлі яго забіць...

— Як гэта забіць? За што?! — усклікнула гаспадыня, успляснуўшы рукамі.

— Ён застрэліў сёння маю сабаку.

— Хлопцы! Вы памыляецеся! Сёння ён быў цэлы дзень дома, бо калоў парася.

— Не! Гэта быў ён! У скуранцы з ружжом... Ён і ўсё! Бо толькі ў яго ёсць і скуранка, і двустволка... — стаў удакладняць падрабязнасці ўсё той жа бандыт.

Патаптаўшыся з хвіліну на месцы, мужыкі рушылі ў хату да дзвярэй, за



Пячко Фёдар Кліменцьевіч 1946 г.

якімі ляжала разабраная тушка парсюка. Але жанчына апярэдзіла іх, падбегла першай і закрыла дзверы на ключ. Імгненна дастала яго з замка і паклала сабе ў кішэню.

Валя з Федзькай сядзелі на ложку, забіўшыся ў куток і трасліся ад страху. Плакаць не плакалі, але баяліся гэтых няпрошаных гасцей. Дзеці бачылі, як тыя нахабна і груба размаўлялі з матуляй, трымаючы ў руках нажы...

Але маці не спужалася, а смела павяла размову:

— Хлопцы! Вы ж з нашага сяла... І такі шум паднялі... А з-за чаго?.. Хутка Новы год... Каляда... А вы псуеце нам настрой... Давайце лепей сябраваць... — і гаспадыня прапанавала бандзітам:

— Хочаце, то пакаштуйце свежаніны... Праўда, яна ўжо ахалола...

Бандзіты такой прапановай былі выбіты з агрэсіўнай каляіны і сцішыліся. Адзін з іх сеў ля стала і павёў гутарку пра зіму і пра пагоду...

Дзверы ў хату былі адчынены на ўсю сцежу. Зімовы холад смела ішоў у кухню і далей па ўсім хатнім памяшканні, але яго ніхто не адчуваў. У пакоі, дзе сядзелі перапалоханыя дзеці, свяцілася рознакаляровымі агнямі ялінка. Толькі яе прыгажосць зараз нікога не радавала.

Праз нейкі час вярнуўся дадому гаспадар.

У двары, ля вугла хаты ён убачыў п'янага мужыка, які стаяў на падстрахоўцы. Прыгледзеўся і пазнаў Пятра з суседняй вёскі.

— А ты чаго тут? — строга і здзіўлена запытаў яго Фёдар.

— Я нічога... Гэта ўсё тыя... — адказаў заікаючыся той.

— Хто?!

— Яны ў хаце... — кіўком галавы паказаў бандыцкі вартавы.

Былы франтавік рашуча ступіў на ганак. Яму адразу ж кінуліся ў вочы і расчыненыя дзверы ў кухню, і постаці няпрошаных гасцей... У сенцах, за дзвярыма вісела яго паляўнічае ружжо. Увайшоўшы ў хату, ён адразу ж зняў яго з цвіка і, трымаючы ў руках, пераступіў парог кухні:

— Што тут такое?! У чым справа?!

— Вось! Прыйшлі па тваю душу... Кажуць, што ты сёння забіў іхняга сабаку... — выпаліла жонка, уздыхнуўшы з палёгкай, што нарэшце дачакалася абаронцу.

— Хто?! Вось гэтыя прыйшлі па мяне?! — запытальна ўсклікнуў былы салдат. — Дзе мае патроны?! Я іх зараз жа пастраляю саміх, нібы шалёных сабак!

І ён з ружжом кінуўся да дзвярэй у халодную часку хаты. Там вісеў яго патранташ, набіты паляўнічымі патронамі. Рвануў ручку, але дзверы былі на замку...

Бандзіты, убачыўшы такую адважную рашучасць гаспадара, пачалі адразу ж падавацца задам-задам ды да выхаду і праз момант выйшлі зусім з хаты.

Усхваляваны Фёдар цвёрдым крокам выйшаў за імі ў сенцы і зачыніў дзверы на засаўку. Валя і старэйшы Федзька па-ранейшаму сядзелі ў куце на ложку і ікацелі ў нярвовых дрыжыках.

— Не бойцеся... Кладзіцеся спаць... — супакоіў іх бацька.

А сам узяўся за патроны і стаў забіваць іх у двустволку. Зараджанае ружжо ён паклаў побач са сваім ложкам на падлогу, пагасіў святло і, амаль не распранаючыся, лёг спаць.

Але сон не ішоў. Франтавік ляжаў з закрытымі вачыма і чакаў новага прыходу налётчыкаў.

І яны прыйшлі!

Позна ноччу бандзіты зноўку загрукацелі ў дзверы хаты. Фёдар устаў, абуў чобаты, накінуў на плечы скуранку, узяў двустволку і пайшоў да дзвярэй. Адчыніў і стаў на парозе... Перад ім ля ўвахода ў хату стаялі дзве цёмныя постаці і курылі.

— Так! Першы стрэл угару! — крыкнуў салдат, наставіўшы на іх дула. — Другі на паражэнне!

І франтавік імгненна шчоўкнуў куркамі... Пачуўшы шчаўчок, адзін з бандзітаў адразу залямантаваў:

— Ратуйце! Забіваюць! — і з усіх ног постаці пабеглі з двара. Праз хвіліну налётчыкі зніклі ў цемры...

У тую ноч і ў наступныя яны больш не прыходзілі...

На другі дзень Фёдар спецыяльна паехаў у горад і зайшоў там у РАУС. Адчыніў рашуча дзверы «дзяжуркі» і для старэйшага па званню міліцыянера зрабіў вусную заяву пра начны бандыцкі налёт на яго хату...



1990 г.

— Каб завесці крымінальную справу, трэба ад вас пісьмовая заява. — адказаў міліцыянер і падаў для Фёдара ліст паперы і ручку. — Сядайце за стол і напішыце ўсё, як было.

Былы франтавік узяў паперу, пастаяў з ёю хвіліну і паклаў назад дзяжурнаму на стол. Пасля чаго развітаўся і пайшоў да выхаду.

— Грамадзянін! Вы куды?! — крыкнуў яму ўслед службіст.

Фёдар спыніўся на парозе, на хвіліну затрымаўся і, абыякава махнуўшы рукою, прамовіў:

— Ай! Я паведаміў вам. Калі што здарыцца, то я не буду лічыць сябе вінаватым... А зараз, хай сабе жывуць! — і зачыніў за сабою дзверы.

Дзяжурны павінен быў сам скласці заяву, але чамусьці не зрабіў гэтага:

— Забойства ж не адбылося!

І ён не спыніў франтавіка, і не пацікавіўся, чаму той не захацеў напісаць заяву...

Сапраўды, а чаму?

А таму, што тады яшчэ ні чытаць, ні пісаць па-руску Фёдар добра не ўмеў, а прызнацца у сваёй непісьменнасці, пасаромеўся. Хаця дома, у кожную вольную хвіліну, ён сядаў за стол і займаўся самаадукацыяй, чытаючы ўголас газету.

Уся справа ў тым, што яго дзіцячыя гады прайшлі пры Польшчы. Яшчэ будучы хлапчуком-падлеткам, ён атрымліваў адукацыю толькі на польскай мове.

А зараз, без яго заявы, у РАУСе крымінальнай справе не быў дадзены рух, і на гэтым начное здарэнне з бандыцкім нападам скончылася.

Пасля моцнага пахмелля заўжды прыходзіць працверажэнне.

Прыйшло яно і да налётчыкаў:

— Што ж гэта мы нарабілі?!

— За свае такія выбрыкі мы можам паплаціцца! — чухаючы патыліцы, меркавалі ўсе разам.

— Нам тэрмінова ўсім трэба разбягацца, і хто-куды!

Бандзіты разумелі, што іхнія «жартачкі» могуць абярнуцца для іх не смехам, а горкімі слязамі. Таму, як толькі настала раніца другога дня, яны адразу ж сталі знікаць з поля зроку вяскоўцаў, нібы шчуры з патанаемага карабля...

Адзін з іх, той, што быў самы старэйшы, прыкінўся цяжка хворым і залёг у бальніцу. Другі, што стаяў на падстрахоўцы за вуглом, тэрмінова адправіўся ў дадьнюю камандзіроўку.

А трэці прайдзісвет адправіўся на чыгуначны вакзал, купіў білет і на доўгія гады з’ехаў з сяла ...

Так скончылася жахлівае здарэнне ў ноч перад Новым годам у хаце франтавіка.

Але з таго выпадку ў яго сям’і прыжылася цвёрдая завядзёнка:

Перад тым, як адчыняць дзверы, трэба спачатку запытаць: «Хто там?»

**Ціна ХУТАРАНКА**

# Бежанка

## *Невыдуманая гісторыя*

Быў апошні панядзелак сакавіка. Дзень даўно загаспадарыў і павольнай хадою крочыў па зямлі. Сонейка не было відна, яго закрывалі шэрыя, нудныя хмары, з якіх накрапваў халодны дождж.

Ціна сядзела за камп'ютарам, калі да яе ў пакой увайшла дачка.

— Мама, да нас у двор уваходзіць нейкая незнаёмка, то мусіць да цябе.

І сапраўды, праз некалькі хвілін раздаўся званок у дзверы, і Ціна пайшла адкрываць. Там, на ганку, у скураным плашчы, стаяла пад каляровым парасонам чужая, сталага ўзросту, жанчына. Галаву яе пакрываў белы бярэцік, з-пад якога выбіваліся белай сівізны валасы.

— Дзень добры! — хуценька павіталася яна і стала рэкамендавацца:

— Я ведаю вы Ціна, а я Марта, ваша зямлячка. Вы мяне не ведаеце, і я вас бачу ўпершыню. Але ж зямля круглая, верціцца... «Гара з гарою не зыходзіцца, а чалавек з чалавекам — сустракаецца...» Таму, вось, вецер і занёс мяне да вас. Мой жа зяць — то сын вашай дваюраднай сястры, што жыве ў недалёкай адсюль вёсцы. Але гэта не ўсё! Я вучылася калісьці з вашым братам у адным класе. Хацелася б пабачыцца з аднакласнікам.

Выслухаўшы незнаёмку, Ціна запрасіла яе ў хату:

— Уваходзьце, калі ласка!

Тая ўвайшла, зняла верхняе адзенне і абедзве жанчыны прайшлі ў кухню. Ціна дастала чыстую сурвэтку і накрыла стол. Паставіла на пліту чайнік і стала рыхтаваць ежу.

— Мы будзем піць чай, і я вам зараз згатую, на хуткую руку, вясковую яешню з гароднінай.

— Не-не! — запярэчыла адразу ж госця. — у мяне цукровы дыябет. Я звычайную ежу не ем. Чай п'ю, і той без цукру і без варэння. Нават, пячэння не ем...

Ціна разгублена глядзела на кабету, і адчувала сваю няёмкасць, бо перад той стаяў толькі кубачак пустога чаю.

— А вы ведаеце, я да вас прыехала з вайны! — пачала свой аповед Марта. — Я ж самага Данецка! Вырвалася з-пад «градавых» абстрэлаў, з якімі накінуўся на нас Кіеў.

Ой! А як мы да гэтага прыгожа жылі?! А гэтыя прыйшлі нас душыць і ператварылі наша жыццё ў сапраўднае пекла! А з-за чаго?! — як бы запыталася госця, і сама сабе адразу ж адказала.

— З-за таго, што мы ўсе пажадалі ўзаконіць статус рускай мовы і не хочам прызнаваць бандэраўскай ідэалогіі...

І жанчына горка заплакала. Па яе шчоках пакаціліся буйныя слёзы. Яна дастала дзесьці з кішэні насоўку і пачала іх выціраць. Голас Марты задрыжаў. Яна змагла гаварыць бадзёра толькі праз некалькі хвілін, калі супакоілася і праглынула горкі камяк крыўды, які падступіў ёй пад горла.

— Зараз наш народ застаўся там без пенсіі і без працы. «Укропы» разбілі у горадзе хлебазавод і шахты. Знішчылі электрычныя падстанцыі. У выніку наваколле засталося без электрычнасці і вады. Мала таго, сталі рушыць жылыя кварталы.

Кожную ноч абстрэльваюць горад і яго ўскраіны фосфарнымі снарадамі. А туды, дзе ўпала гэтая «цацка», усё гарыць! Нават, зямля. На ёй жа, вельмі доўгі час, нічога не будзе расці.

Адзін з асколачных снарадаў упаў у наш двор і абваліў наш пад'езд. Народ павыскакваў з кватэр на вуліцу і ўсе пабеглі ў суседні падвал. У гэты момант падае другі снарад, і дзевятнаццаць чалаек адразу насмерць. Людзей паразрывала на шматкі!.. Дзе галава, дзе рукі, а дзе ногі...

Страшней відовішча я яшчэ не бачыла ў сваім жыцці. Пасля абстрэлу сталі збіраць кавалкі чалавечага мяса, каб пахаваць. Жудасць апанавала жывымі. Горад стаў імгненна пусцець. Людзі пачалі выязджаць у бежанцы. Ну і я таксама...

У той момант я і вырашыла:

— Ну я, то — я! Як і загіну, то ўсё роўна ж паміраць трэба. А дзяці павінны яшчэ жыць і іх трэба выратаваць! І рашуча закамандавала:

— Усе тэрмінова збіраемся на Беларусь! Паедзем да мяне на Радзіму!

Узялі з сабою, толькі неабходнае, бо ехалі ўсяго на месяц-два. Я закрыла кватэру, дзе засталася ўся мая маёмасць. Пакінула, нават, там у каструльцы свае залатыя завушніцы і кольцы. З сабою ўзяла толькі дакументы і ўсе грошы. Узяла і тыя, што збірала сабе на смерць...

Мы выязджалі з Данбаса праз Расію. Ехалі абходнымі шляхамі праз Маскву. Тады я меркавала, што дзяцей адвязу, а сама вярнуся і буду пільнаваць кватэру ад марадзёраў. Бо з мясцін, якія захапілі бандэраўцы, яны цяглі да сябе на заходнюю Украіну ўсё, што бачылі і што трапляла ім пад сквапныя рукі.

— Пра марадзёраў расказвалі па тэлевізару, — падцвердзіла расказчыцу Ціна.

— Тое, што паказвае Расія па тэлебачанню — гэта ісціная праўда! А што паказвае Ўкраіна — адзін падман, — растлумачыла Марта і стала далей апавядаць пра свае жыццёвыя пакуты.

Жанчына сядзела за сталом, гаварыла і рукамі ўсё гладзіла сурвэтку. Часам яна нярвова ўздрыгвала пры рэзкім стуку, які далятаў з двара і трэску ў халадзільніку.

— Што гэта?! — ускліквала кожны раз яна.

— Не бойцеся! Гэта машыны на шашы. А зараз трэснуў мой халадзільнік, — супакойвала яе гаспадыня, разумеючы нярвовую ўзбуджанасць госці, якая была вынікам перажытых абстрэлаў у Данецку.

А тая працягвала свой аповед далей:

— Прывязла я дзяцей сюды, а назад — дарогі няма! Усе шляхі абарваны. На Данбассе пачалася сапраўдная вайна. Кіеўская ўлада, каб паставіць наш народ на калені, стварыла нам блакаду.

Цягнікі туды перасталі хадзіць. Карнікі разбілі чыгунку і трансфарматарныя падстанцыі, павыкручвалі ўсе прылады, у якіх знаходзілася медзь, і пазнімалі правады з ліній электраперадач... Божа! Што робіцца на белым свеце?! Мы мелі ўсё! І засталіся без нічога!

І Марта зноўку заплакала аднымі вачыма. Раз-пораз яна выцірала іх насоўкаю. А Ціна, гледзячы на яе, маўчала. Яна ўважліва слухала «жывую сведку вайны на Данбасе». Ёй хацелася запомніць кожнае яе слова, каб потым выліць гэты жывы аповяд на паперу.

— Быў жнівень 2014 года, калі я прыехала сюды ў «брыджах», лёгкай сукенцы і шлёпанцах. Назад жа вярнуцца не змагла. А тут халады і зіма. Божа святы! А што рабіць?! Ні пенсіі, ні працы і ні грошай... Гэта добра, што у мяне засталася тут чацвёртая частка ад бацькаўшчыны. Мая ж матуля, (царства ёй нябеснае!) паміраючы падзяліла старэнькую сваю хатку на ўсіх дзяцей. Вось на гэтую чацьвёртую частачку нас усіх і прыпісалі. А значыць мы ўсе і змаглі ўладкавацца на працу. Я зараз працую ў бальніцы прыбіральшчыцай, а дачка на пошце — грузчыцай. Рэдка хто з мясцовых працуе на гэтых нізкааплатных працоўных месцах. А мы працуем і вельмі ўдзячныя вашаму прэзідэнту, што не кінуў нас у бядзе.

Нас у Беларусі апранулі, абулі і накармілі.

А наш! Накіраваў да нас на Данбас армію, і па яго камандзе сталі разбурацца нашы гарады. Па яго камандзе растрэльваюцца мірныя людзі і гінуць дзеці. А колькі засталося калек!?...

Марта цяжка ўздыхнула. На вочы жанчыны зноўку набегла горкая сляза, якую яна старанна выцірала хусцінкай.

— Зараз мне добра! Я атрымліваю сацыяльную пенсію і яшчэ працую. У выніку маю за што жыць.

Першыя дні я хадзіла па гораду і чытала вывескі, стукала ва ўсе дзверы з адной просьбай:

— Дайце мне хоць якую-небудзь працу, каб было за што купляць хлеб...

Я і на тэлебачанне заходзіла і там расказвала пра вайну на Данбасе. Усюды мне давалі са сваіх кішэняў грошы, хто колькі змог, і раілі куды ісці далей. Чужыя, незнаёмыя людзі дапамаглі мне, і мы не прапалі. Жывем усе і ўжо працуем. Так што будзе ўсё добра. Хай жыве Беларусь!

Пры гэтых словах твар жанчыны засвяціўся радасцю, і вочы яе ажылі. На хвіліну яна замоўкла і адпіла з кубачка пару глыткоў чаю. А потым зноўку павяла расказ далей:

— Але, ведаеце, Ціна, з чым я сутыкнулася між сваіх сясцёр?

І твар бежанкі скрывіўся ў плаксівай грымасе. Яна нізка схіліла галаву, як бы саромячыся сваіх мокрых вачэй, і зноўку працерла іх насоўкай. Загаварыла, калі справілася з ахапіўшым яе хваляваннем.

— Мне прыйшлося сутыкнуцца з чэрствасцю і сквапнасцю родных па крыві людзей... — нарэшце вымавіла жорсткую праўду госця.

— Чаго ты сюды прыехала?! Трэба было ехаць у Расію! — заявілі мне ў адзін голас сёстры. — Мы ж хочам прадаць хату! А з-за цябе ў нас нічога не атрымліваецца! Адрачыся ад сваёй долі!

Марту зноў ахапіў жаль да сябе і слёзы самі пакаціліся па шчоках. Пракаўтнуўшы сваё гора, яна паглядзела ўжо на Ціну смелымі вачыма:

— А куды мне было ехаць? Я ж прыехала на Радзіму ў матчыну хату! Маю дакументы на чацвёртую яе частку і на чацвёрты кавалак зямлі. А радня не дае мне, нават, ключа, каб я ўвайшла і жыла ў той хатцы...

Жанчына цяжка ўздыхнула і запытальна забожкала:

— Божухна! А калі б з імі, вось, такое здарылася?! Калі б з імі тое, што з намі на Данбасе?! Што бы тады было?

У кухні на нейкі момант усталявалася цішыня. Гаманіла толькі радыё. Кожная з жанчын думала аб сваім, але на гэты раз гаворку прадоўжыла Ціна.

— Я вам спачуваю, бо самой прышлося сутыкацца на жыццёвым шляху з аднымі выпрабаваннямі і цяжкасцямі.

Радня мне не дапамагала. Толькі падсмейвала і падхіхіквала. Мне насустрач ступілі чужыя людзі. Менавіта яны мне працягнулі руку дапамогі.

Ціна зцішылася на хвіліну, а потым стала выказваць сваё меркаванне:

— Я ўпэўнена, што на вашым баку праўда і закон. Таму дабівайцеся свайго і будзе ўсё добра.

Жанчыны яшчэ доўга абмяркоўвалі жыццёвыя праблемы. Ціна папрасіла госцю запісаць аб вайне на Данбасе тое, што яна бачыла.

— Вы ж зараз выступаеце жывым сведкам сапраўднай гісторыі, якую ў будучым часе пачнуць фальсіфікаваць і перапісваць у сваіх інтарэсах. З боку Украіны і зараз — адзін падман. А мы з вамі пакінем нашчадкам тое, што бачылі і што прыйшлося перажыць...

Яшчэ трохі пагаманіўшы, госця засабіралася дадому. Ціна дастала з маразільніка вялікую плахту хатняга сала, дзесятак курыных яек, наклала ў мяшэчак моркаўкі і часнаку. Упакавала ўсё гэта ў плёнкавы пакет і падала для Марты.

— Гэта вам ад нас.

— Навошта? Я нічога не буду браць... — засаромелася тая.

— Бярыце-бярыце! Тут нічога няма ганебнага. Знайце! Свет не без добрых людзей! — і Ціна сама расчулена пачала спавядацца.

— Мне давялося перажыць амаль тое, што і вам, як хавала сына-альпініста... Яго смерць была нечаканай. Гэта было падобна грому нябеснаму на блакітным небе, залітым сонцам. А ў мяне, на той момант, ў кішэні — сто тысяч беларускімі і пенсія, якую дадуць у канцы месяца. Што рабіць? З чаго пачынаць? І чужыя людзі дапамаглі мне. Усе ішлі на пахаванне майго сына, і ўсе ахвяравалі грошы, хто колькі змог...

У мяне наяўных зараз няма, таму бярыце тое, што я магу вам даць. Недарма ж кажуць, што «сябра пазнаецца ў бядзе...»



# «Меж высоких хлебов затерялося небогатое наше село»

**«ЗАПОЛЬЕ» — известил дорожный указатель, и мы свернули с асфальта. Поросшая травой-муравой грунтовка, а вокруг — поля, поля... Зеленый ковер ржи на месте исчезнувшей во Времени деревушки Зборомирово, переходящей подворьями, потемневшими срубами, огородами и редкими строениями-новоделами в деревню Заполье. Справа — окраина фруктового сада ОАО «Остромечево», далее по ходу движения — угодья свинокоплекса «Западный». Это уже Мотыкальский сельский совет, хутора, впритык — просторы Лыщицкого сельсовета с Деревней будущего — агрогородком Остромечево, до которого отсюда не более 5-ти километров.**

Все это кажется далеко-далеко, а здесь — полусонная тишина и сады с приусадебными участками по обе стороны тесной улочки. Жилые дома — старой постройки, на вид — 30-х годов. Однако мерзости запустения, как таковой, не наблюдаем. Повсеместно наглядные признаки рачительной хозяйственной деятельности — подкошенные обочины, побеленные деревья, свежие стожки и яркая зелень на грядках. Знать, живут здесь люди, хлеб жуют, ухаживают за огородами, растят домашнюю живность. То грузовик, груженный досками и брусьями, неспешно проследует, то легковушка ускоренным ходом проедет. Правда, детских голосов не слыхать, зато уж птичьих — хватает. Представляю, как поет и благоухает село ранним летним утром!

Нет, не заброшен сей райский уголок, хотя и малолюден да отмечен приметами увядающей старины. Всего два десятка молчаливых хат, большинство из которых, как выяснилось позже, если можно так выразиться, временно жилые. То есть, хозяева сюда наведываются в основном в летний период. Дачники? Не совсем так. Точнее будет сказать — наследники.

Знакомимся с одной из них: Любовь Венедиктовна Игнатюк. Девичья фамилия матери — Козей. Вместе с соседом, Георгием Степановичем Антонюком, сгребала подсушенное сено в саду. А во дворе своего, родительского дома, показала нам огромный развесистый каштан. Посадила плод, будучи ребенком, а вот, глядите, какой вымахал... Показала также снимок Зборомировской начальной школы, которую когда-то закончила, и которая давным-давно сгорела. Нынче на месте школы — хлебные поля.

Рассказала о своих родителях. Мать — Вера Никифоровна, из местных. Отец, Игнатюк Венедикт Иванович, — фронтовик, орденоносец. Довелось с 1937 г. послужить в Польской армии, с весны 1944 г. по призыву Брестского райвоенкомата воевал на фронтах Великой Отечественной, в Восточной

# Из домашнего архива Венедикта Ивановича Игнатюка, фронтовика, жителя деревни Заполье



Венедикт ИГНАТЮК, единственно сохранившийся снимок в военной форме



**Боевые награды ветерана**



В.И. Игнатюк, довоенный снимок



Семья Игнатюков-старших с дочкой в молодости



Венедикт Иванович и Вера Никифоровна Игнатюки, Снимок 50-х годов



Берлин, май 1945 г. На снимке крайний справа — Степан Антонюк.

Пруссии, затем против японских милитаристов. Был тяжело ранен, контужен. Демобилизовали в сентябре 1946 г. Трудился в местном колхозе. Наследники хранят военный билет ветерана, где значится: гвардии младший сержант, пулеметчик, наводчик орудия, воевал в составе 676 стрелкового полка, 767 гаубичного артиллерийского полка, лечился в 4030-ом эвакогоспитале... Отмечены также боевые награды.

Любовь Венедиктовна вспоминает подробности родительской биографии. Например, поженились мать с отцом в 1942 году, во время фашисткой оккупации. Заставила суровая необходимость — неженатых и незамужних парней и девчат немцы отправляли на принудительные работы в Германию. Выход нашелся: молодые, по обоюдному согласию, срочно венчались в Вистычской Крестовоздвиженской церкви. Церковный архив после войны пропал. Прожили вместе в мире и согласии больше 50 лет, пока не понадобились документы для нотариального завещания... Вот и пришлось «молодым старикам» по новой, аж в 1994 г., подавать заявление в Мотыкальский сельсовет о заключении брака. И даже положенный на раздумье месяц чиновники им назначили...

Еще эпизод, невеселого свойства... Вскоре после войны, когда Венедикт Иванович вернулся в родную деревню, его семью чуть было не «раскулачили». За что? А все очень просто по тем временам: наиболее ярые активисты колхозного движения нашли в бабкином сарае... спрятанный лошадиный хомут. Кулак! Лошадей где-то прячет! Ларчик открывался легко: лошадей, что были в крестьянском хозяйстве, еще немцы угнали...

Несмотря на недоразумение, человек обиду на власть не затаил. Добросовестно трудился в колхозе, был бригадиром, жена — дояркой. Кстати, в паспортах обоих значится первоначальный адрес «малой родины» — хутор Зборомирово... Умер фронтовик в 1998 году в возрасте 75-ти лет. Наследники бережно хранят боевые награды деда и, конечно же, — память о нем.

Пожалуй, самый активный из местных жителей, что проживает здесь с супругой Галиной Александровной практически постоянно, и с кем мы познакомились, это уже упомянутый выше Георгий Степанович Антонюк. Он умело ухаживает за огородом и садом, держит пернатую живность и овец, недавно смастерил специальный инкубатор для цыплят, и вообще мастер на все руки. В его домашнем архиве есть фотография отца, Степана Филипповича, уроженца Заполья, призванного в действующую армию в сентябре 1944 года. Судя по штемпелю с готическим шрифтом на обороте фотокарточки, сделан был этот снимок

в Германии, в первых числах победного мая 1945 года.

Геройский солдат гордо стоит с двумя боевыми товарищами на паркете немецкого фотоателье, открыто и спокойно смотрит в фотообъектив. Фронтовики — в парадных офицерских гимнастерках, в блестящих «хромочах» и кожаных ремнях. Победители!

Степан Филиппович был награжден, однако, к сожалению, награды в семье не сохранились. Ушел из жизни в 2007 году.

Зато трудовая награда матери Нины Арсентьевны, в девичестве Пивоварчук, в прошлом доярки колхоза имени Ленина — на самом почетном месте. Награда, по всем меркам, высокая — Орден Трудового Красного Знамени. Сохранилась и «Орденская книжка». Указ о награждении доярки от 7 декабря 1976 года — за подписью бессменного секретаря Президиума Верховного Совета СССР Георгадзе Михаила Порфирьевича... По четыре с половиной тысячи литров молока от коровы надаивала передовая доярка. Причем, — вручную. В то время на фермах еще не было доильных ведер и молокопроводов, кормораздатчиков и навозоудалителей. Все-все своими натруженными крестьянскими руками приходилось делать дояркам и животноводам!

Но даже этот самоотверженный, нелегкий труд не идет в сравнение с теми тяготами и страхами, что довелось пережить крестьянам во время фашистской оккупации. По рассказам матери, их семью, как и многих других односельчан, оккупанты выселили из хаты, поэтому ютились взрослые с детьми в сараях и наспех вырытых землянках. Вспоминала женщина, как однажды лощеный немец выхватил из ее рук младенца, до смерти напугав мать, грозя куда-то унести... Помнит, как угоняли








Нина Арсентьевна АНТОНЮК (Пивоварчук), снимок 70-х годов.
Трудовая награда и «Орденская книжка» передовой доярки

в Неметчину односельчан... Как зверствовали захватчики-мадьяры... Как детишки перебивали голод грушками-«гнилушками» и грибами... Как страшно гудели в небе вражеские самолеты, грохотали разрывы и горели хаты — и в самом начале войны, и в ходе освобождения... Как ожидали весточек с фронта от ушедших на войну отцов, братьев и сыновей... Как рвали руки и жилы, восстанавливая порушенное хозяйство, строили дома и создавали колхоз...

...В беседе с нами жители Заполья посетовали на то, что, мол, нет поблизости ни речки, ни озерца, ни пруда. Сохранился, правда отрезок мелиоративного канала, да и тот зарос... Поэтому, они считают, в жаркую погоду грозовые тучи деревушку, как правило, обходят, ибо отсутствует притяжение живой воды...

Позвольте с вами не согласиться, дорогие мои! Здесь существует другое притяжение огромной, непреодолимой силы — память родителей и предков, традиции поколений. А это, ох, как ценно и важно! Ведь дома, пруды и сады под мирным небом —дело наживное. Не так ли?!

**А коль буйно колосится жито в окрестных полях, значит, Заполью — жить!**

*Александр* ВОЛКОВИЧ
*Фото Алексея* СКАКУНА



*Взгляд из прошлого*

# Коллективный портрет жителей деревни Заполье

Определить точную дату этого снимка практически невозможно. Можно предположить, что шумную деревенскую свадьбу — судя по количеству гармоней и аккордеонов (трофейных?) — вскоре после войны запечатлел заезжий фотограф, и попытаться узнать среди гостей жениха и невесту. Можно попробовать отыскать свидетелей сельского торжества, однако это занятие, скорее всего, безнадежное из-за давности события. Известно лишь одно: сделан старый снимок на фоне хаты, где проживала семья местных жителей по фамилии Жук. И домик этот под № 11 стоит до сих пор, правда, крышу, сделанную из чарота и соломы, заменил серый шифер, поросший мхом со временем, а детская возня и переливы гармони сельский дворик давно не тревожат...

Обратите внимание на мальчишку с аккордеоном слева от сидящей на пер-



вом плане группки сельчан. Это Павел Николаевич Жук, сынишка хозяев хаты. В будущем (и в прошлом) — выпускник Брестского пединститута, житель Москвы, кандидат химических наук. Уехав после учебы в столицу СССР и женившись на москвичке, он каким-то образом изменил свою фамилию, а точнее, она трансформировалась, на российский манер, в «Жуков». По завещанию, Павел Николаевич похоронен неподалеку от Заполья — в Вистычах... Можно сказать, вернулся в родные места после долгих-долгих лет отсутствия...

Еще в Заполье помнят Анну Зиновьевну Жук, 1904 года рождения, тоже хозяйку этого дома. Причастна к родовому гнезду и внучка старших Жуков — Анна Павловна.

Именно Анна Павловна нашла в родительском альбоме сохранившийся каким-то чудом старый снимок, сделала копию, и подарила землякам.

Чтобы знали и помнили.

И что самое удивительное и волнительное, — старенький дом Жуков в Заполье не является нынче брошенным или ничейным. Анна Павловна, наследница и продолжательница рода, проживая постоянно в Австрии, регулярно приезжает в крохотную белорусскую деревню, ухаживает за дедовским домом и приусадебным участком, поддерживает связи с родиной своих предков.

И разве может быть иначе?!

*Александр ВОЛКОВИЧ*



# Милая малая родина...

*Милая малая родина,*
*Точка на карте Земли,*
*Сердце навек тебе отдано,*
*Мы тебя помним вдали!*

**Малая родина многолика. Для одних это родной город, улица в городе или небольшой дворик, деревня, где прошли лучшие детские годы, для других — кусочек дикой природы, который радовал глаз и дарил чувство наполненности и покоя. Для нас — это старинное местечко Чернавчицы, на территории которого находятся памятники XVI и XVIII веков, охраняемые государством.**

Исторически сложилось так, что наши Чернавчицы, расположенные на пересечении жизненно важных торговых путей, стали невольными свидетелями и участниками военных действий в периоды Ливонской войны, восстания Калиновского, наполеоновского нашествия, Первой и Второй мировых войн. С одной стороны, это, несомненно, способствовало заселению местечка народами различных национальностей и культур, активному послевоенному развитию ремесел и торговли, стремлению к духовному и материальному обогащению его жителей. Однако на этой земле именно в силу слияния различных обрядов и традиций, а также разрушительных военных времен практически не осталось свидетельств «аутентичности», местечкового своеобразия и колорита, сохраненных предыдущими поколениями...

Но вопреки всем историческим невзгодам белой скалой возвышается посреди Чернавчиц каменный памятник архитектуры республиканского значения, храм-крепость, римско-каталический костел Святой Троицы, построенный в 1583 году. Через несколько десятков метров вдоль улицы плывет голубым облаком памятник деревянного зодчества с элементами стиля барокко Чернавчицкая церковь Параскевы Пятницы, возведенная без использования железных скоб и гвоздей в 1733 году.



Одним из старейших в Республике Беларусь памятников белорусского каменного зодчества является римско-католический костел Святой Троицы



Много лет собирает и хранит по крупицам сведения о церкви и костеле Чернавчицкая сельская библиотека. 11 апреля сюда пришли школьники на экскурсию в прошлое и участие в викторине «Что ты знаешь об исторических памятниках родной деревни?». Мероприятие было приурочено к Международному Дню памятников и исторических мест.

Затаив дыхание, ребята слушали повествование заведующей библиотекой Тамары Николаевны Кучко о том, как непросто складывалась судьба древнего православного храма. Первое ее здание уничтожил пожар, и в визитном акте от 1759 года говорится, что священником Иоанном Круковским на собственные средства была построена на том же месте каплица, которая служила для прихожан во время богослужения, пока отстраивалась сгоревшая церковь. В 1839 г. храм был капитально отремонтирован на средства помещика из Блювинич Адама Бояровского. Однако в 1986 г. церковь Параскевы Пятницы опять значительно пострадала от пожара. Через пару лет в Чернавчицкий храм, вместо сгоревшего, был привезен иконостас из зимнего придела Ружанской Свято-Петро-Павловской церкви. Сейчас при храме, который посещают прихожане из 13 окрестных деревень, действует воскресная школа и приходская библиотека.

Внимательно слушали ребята библиотекаря Ирину Александровну Рабчевскую, знакомившую их с интереснейшей историей костела Святой Троицы, редкой историко-архитектурной жемчужиной, донесшей до нас дыхание событий ушедших столетий. Оригинальный проект храма созданный итальянцем-иезуитом, постройка его инженерами из Швейцарии, искусно замуровавшими на фронтоне несколько бойниц для дальнего боя, метровая ширина каменных стен помогли выстоять костелу практически без разрушений. Только каждая эпоха здесь оставила свой след. После восстания Калиновского были безжалостно брошены в огонь бесценные старинные книги, иконы, старинная утварь. Алтарь и уникальный орган были непоправимо поломаны. В первые



Чернавчицкая церковь Великомученицы Параскевы Пятницы

месяцы Великой Отечественной войны фашисты, боясь партизан, сожгли и разрушили многое из внутреннего убранства храма. Однако некоторые выдающиеся реликвии вроде орната — одежды священника с вшитыми слуцкими поясами и гербом рода Радзивиллов, владевших Чернавчицами более 300 лет, представляют международный интерес для ценителей исторического наследия.

Недаром Владимир Короткевич в своем очерке «Званы ў прадоннях азер» с большой теплотой посвятил целую главу истории костела Святой Троицы — одной из исторических визитных карточек современного агрогородка Чернавчицы.

*Ирина* **РАБЧЕВСКАЯ,**
*библиотекарь*



*Объекты культурного деревянного зодчества Полесского региона (Брестского района), которые могут быть включены в список всемирного культурного наследия ЮНЕСКО*




## Церковь Святой Параскевы Пятницы в Збирогах

Эта церковь синего цвета насчитывает почти 450-летнюю историю.  Она была построена в начале XVII века по желанию княгини Агаты из древнего рода Сапегов.

Долгое время деревянный храм считался униатским. Но с 1866 года сюда стали приходить православные. В 20-х годах XX века церковь была передана католикам. В этот же период здание претерпело реставрацию. Храм благополучно пережил войну, а спустя некоторое время получил статус православного.

Церковь выглядит скромно. Маленький притвор, небольшие окна, брусчатые стены. Внутри на стенах иконы XVII–XVIII веков «Матерь Божия Одигитрия», «Спас Пантократор» и, конечно же, «Параскева Пятница».

У входа в храм — небольшая звонница. Ее шатровая крыша держится на крепких стенах. Сквозь арочные проемы внутрь попадает свет.

